*Закон Рэспублікі Беларусь*

# Аб ахове здароўя

Гэты Закон вызначае дзяржаўную палітыку ў галіне аховы здароўя грамадзян Рэспублікі Беларусь, прававыя, сацыяльна-эканамічныя і арганізацыйныя асновы сістэмы аховы здароўя.

## Раздзел І. Агульныя палажэнні

**Артыкул 1. Заканадаўства Рэспублікі Беларусь аб ахове здароўя грамадзян**

Заканадаўства Рэспублікі Беларусь аб ахове здароўя грамадзян складаецца з Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, гэтага Закона і іншых актаў заканадаўства Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 2. Дзяржаўная палітыка ў галіне аховы здароўя**

Дзяржаўная палітыка ў галіне аховы здароўя грунтуецца на наступных прынцыпах:

даступнасць медыцынскай дапамогі і фармацэўтычнага забеспячэння;

прафілактычная накіраванасць аховы здароўя;

прыярытэтнае медыцынскае абслугоўванне і лекавае забеспячэнне дзяцей і маці;

падкантрольнасць прафесіянальнай дзейнасці медыцынскіх і фармацэўтычных работнікаў органам аховы здароўя;

адказнасць дзяржаўных органаў улады і кіравання і наймальнікаў за стан здароўя грамадзян;

роўныя магчымасці развіцця прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый аховы здароўя незалежна ад ведамаснай прыналежнасці і форм уласнасці;

эканамічная зацікаўленасць юрыдычных і фізічных асоб у захаванні здароўя грамадзян;

удзел грамадскасці і грамадзян у ахове здароўя.

**Артыкул 3. Права грамадзян на ахову здароўя**

Грамадзяне Рэспублікі Беларусь маюць права на ахову здароўя.

Гэта права забяспечваецца:

бясплатнай медыцынскай дапамогай у дзяржаўных установах аховы здароўя, за выключэннем тых відаў медыцынскай дапамогі, якія вызначаюцца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь;

умацаваннем матэрыяльна-тэхнічнай базы ўстаноў аховы здароўя;

падрыхтоўкай медыцынскіх і фармацэўтычных кадраў;

стварэннем для чалавека спрыяльнага асяроддзя пражывання;

магчымасцю карыстання медыцынскімі, лячэбна-прафілактычнымі і аздараўленчымі ўстановамі;

стварэннем умоў для заняткаў фізічнай культурай і спортам.

**Артыкул 4. Права грамадзян на свабодны выбар урача і ўстановы аховы здароўя**

Кожны грамадзянін мае права прайсці медыцынскае абследаванне і атрымаць медыка-санітарную дапамогу ў любой установе аховы здароўя з улікам яе профілю і магутнасці.

У мэтах прафілактыкі захворванняў, бесперапыннасці нагляду дыспансерных хворых і іх лячэння органы аховы здароўя замацоўваюць грамадзян па іх жаданню за ўстановай аховы здароўя з улікам яе профілю і магутнасці, а кіраўнікі ўстаноў аховы здароўя — за ўрачамі.

**Артыкул 5. Медыцынскае абслугоўванне і лекавае забеспячэнне ваеннаслужачых, асоб начальніцкага складу органаў унутраных спраў, а таксама членаў іх сем'яў**

Медыцынскае абслугоўванне і лекавае забеспячэнне ваеннаслужачых, асоб начальніцкага складу органаў унутраных спраў, а таксама членаў іх сем'яў ажыццяўляюцца ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 6. Права на ахову здароўя асоб, якія знаходзяцца пад следствам і ў месцах пазбаўлення волі**

Асобам, якія знаходзяцца пад следствам і ў месцах пазбаўлення волі, гарантуецца аказанне неабходнай медыцынскай дапамогі. Кожны асуджаны падлягае медыцынскаму агляду пры накіраванні ў месцы пазбаўлення волі.

**Артыкул 7. Права грамадзян на інфармацыю аб стане свайго здароўя**

Кожны грамадзянін мае права на атрыманне поўнай і дакладнай інфармацыі аб стане свайго здароўя.

Інфармацыя можа быць няпоўнай або абмежаванай, калі на думку медыцынскіх ці фармацэўтычных работнікаў поўная і дакладная інфармацыя пагоршыць стан здароўя хворага.

**Артыкул 8. Абавязак і адказнасць грамадзян у галіне аховы здароўя**

Грамадзяне абавязаны беражліва адносіцца да свайго здароўя і здароўя іншых грамадзян.

Грамадзяне, якія наўмысна прычынілі шкоду свайму здароўю, а таксама здароўю іншых грамадзян або якія робяць замах на іх здароўе, прыцягваюцца да адказнасці ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

## Раздзел ІІ. Паўнамоцтвы органаў дзяржаўнай улады і кіравання, прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый у галіне аховы здароўя

**Артыкул 9. Кампетэнцыя Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь распрацоўвае і ажыццяўляе палітыку ў галіне аховы здароўя ў адпаведнасці з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь.

Веданню Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь падлягаюць:

вызначэнне стратэгіі развіцця аховы здароўя і зацвярджэнне нацыянальных медыцынскіх праграм;

ажыццяўленне кантролю за выкананнем заканадаўства Рэспублікі Беларусь у галіне аховы здароўя;

зацвярджэнне дзяржаўнага бюджэту на ахову здароўя насельніцтва.

**Артыкул 10. Кампетэнцыя Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь**

Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь у межах сваіх паўнамоцтваў нясе адказнасць за стан здароўя народа.

Веданню Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь падлягаюць:

распрацоўка і зацвярджэнне праграм развіцця аховы здароўя і медыцынскай навукі, уключаючы праграмы па ліквідацыі вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, медыцынскай і фармацэўтычнай адукацыі і падрыхтоўкі навуковых кадраў;

складанне дзяржаўных планаў, распрацоўка і зацвярджэнне праграм вытворчасці лекавых сродкаў і прэпаратаў, абсталявання і іншых сродкаў і вырабаў медыцынскага прызначэння;

забеспячэнне санітарнай аховы тэрыторыі, санітарна-эпідэмічнай і радыяцыйнай бяспекі насельніцтва;

стварэнне айчыннай медыцынскай і фармацэўтычнай прамысловасці.

**Артыкул 11. Кампетэнцыя Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь**

Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь ажыццяўляе:

кіраванне органамі, прадпрыемствамі, установамі і арганізацыямі аховы здароўя;

каардынацыю і кантроль за прафесіянальнай дзейнасцю органаў і ўстаноў аховы здароўя незалежна ад ведамаснай прыналежнасці і форм уласнасці, а таксама медыцынскіх і фармацэўтычных работнікаў, якія практыкуюць самастойна;

арганізацыю і кантроль за прафесіянальнай падрыхтоўкай медыцынскіх і фармацэўтычных работнікаў;

кіраванне медыцынскімі навукова-даследчымі ўстановамі і каардынацыю навуковых даследаванняў у галіне аховы здароўя;

зацвярджэнне санітарна-гігіенічных і санітарна-проціэпідэмічных правіл і норм, устанаўленне парадку ажыццяўлення дзяржаўнага санітарнага нагляду;

распрацоўку агульных прынцыпаў арганізацыі і развіцця санаторна-курортнай дапамогі.

Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь выконвае таксама і іншыя функцыі ў адпаведнасці з Палажэннем аб ім, якое зацвярджаецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Загады і інструкцыі Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь па пытаннях прафілактыкі, дыягностыкі захворванняў, лячэння і фармацэўтычнай дзейнасці абавязковыя для ўсіх медыцынскіх і фармацэўтычных прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый незалежна ад ведамаснай прыналежнасці і форм уласнасці.

Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь нясе адказнасць за выкананне абавязкаў, ускладзеных на яго актамі заканадаўства Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 12. Кампетэнцыя мясцовых органаў дзяржаўнай улады і кіравання**

Мясцовыя органы дзяржаўнай улады і кіравання нясуць адказнасць за стан здароўя грамадзян, якія пражываюць адпаведна на тэрыторыі вобласці, раёна, горада, раёна ў горадзе, пасёлка, сельсавета.

Мясцовыя органы дзяржаўнай улады і кіравання ў галіне аховы здароўя грамадзян забяспечваюць:

фінансаванне органаў, прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый аховы здароўя, якія знаходзяцца ў іх веданні;

ажыццяўленне санітарна-гігіенічных, санітарна-проціэпідэмічных мерапрыемстваў і мер радыяцыйнай абароны ў вытворчай і сацыяльнай дзейнасці дзяржаўных органаў, прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый і грамадскіх аб'яднанняў на сваёй тэрыторыі;

развіццё і матэрыяльна-тэхнічнае забеспячэнне ўстаноў аховы здароўя, якія знаходзяцца ў іх веданні;

зацвярджэнне і фінансаванне рэгіянальных медыцынскіх праграм;

ліцэнзаванне асобных відаў медыцынскай і фармацэўтычнай дзейнасці.

**Артыкул 13. Абавязкі наймальнікаў па стварэнню ўмоў для рэалізацыі правоў работнікаў на ахову здароўя**

Наймальнікі абавязаны ствараць адпаведныя ўмовы для рэалізацыі правоў работнікаў на ахову здароўя і нясуць адказнасць за ўшчамленне іх правоў у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

## Раздзел ІІІ. Сістэма аховы здароўя, яе фінансавае і матэрыяльна-тэхнічнае забеспячэнне

**Артыкул 14. Стварэнне ўстаноў аховы здароўя**

Юрыдычныя і фізічныя асобы маюць права ствараць на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь лячэбна-прафілактычныя, санітарна-прафілактычныя, аптэчныя ўстановы, а таксама ўстановы медыцынскай экспертызы і нясуць адказнасць за фінансавае і матэрыяльна-тэхнічнае забеспячэнне ўказаных устаноў, а таксама за арганізацыю і якасць медыка-санітарнай дапамогі.

Пералік устаноў аховы здароўя і палажэнні аб іх зацвярджаюцца Міністэрствам аховы здароўя Рэспублікі Беларусь.

Установа аховы здароўя лічыцца створанай з дня яе дзяржаўнай рэгістрацыі ў адпаведнасці з актамі заканадаўства Рэспублікі Беларусь.

Для ажыццяўлення відаў медыцынскай і фармацэўтычнай дзейнасці ўстанова абавязана атрымаць ліцэнзію ў парадку, які ўстанаўліваецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 15. Фінансаванне аховы здароўя**

Фінансаванне дзяржаўнай аховы здароўя ажыццяўляецца з разліку патрэбнасці расходаў на медыка-санітарную дапамогу на аднаго жыхара. Частка расходаў, якія штогод накіроўваюцца на гэтыя мэты, вызначаецца зыходзячы з патрэбнасці аховы здароўя Законам Рэспублікі Беларусь "Аб дзяржаўным бюджэце Рэспублікі Беларусь", але ў аб'еме не менш 10 працэнтаў нацыянальнага даходу.

Крыніцамі фінансавых паступленняў на ахову здароўя з'яўляюцца:

сродкі дзяржаўнага бюджэту;

частка пазабюджэтных сродкаў мясцовых Саветаў народных дэпутатаў, у тым ліку штрафы за парушэнне санітарных норм і правіл;

добраахвотныя ўзносы прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый, грамадскіх аб'яднанняў і асобных грамадзян, а таксама юрыдычных асоб, замежных грамадзян і асоб без грамадзянства;

сродкі, атрыманыя ў выніку задавальнення іскаў органаў аховы здароўя да прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый па пакрыццю расходаў на аздараўленчыя мерапрыемствы ў выпадках аварый або парушэнняў тэхналагічных працэсаў, якія пацягнулі пагаршэнне ці страту здароўя грамадзян;

даходы ад гасразліковай дзейнасці ўстаноў аховы здароўя, у тым ліку платных медыцынскіх паслуг, не ўключаных у праграмы аховы здароўя, якія фінансуюцца дзяржавай;

фонды медыцынскага страхавання;

іншыя крыніцы, не забароненыя дзеючым на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь заканадаўствам.

У асобных выпадках фінансавыя паступленні могуць непасрэдна накіроўвацца ў органы і ўстановы аховы здароўя.

**Артыкул 16. Фінансаванне ўстаноў аховы здароўя праз арганізацыі, якія ажыццяўляюць медыцынскае страхаванне**

У мэтах эфектыўнага выкарыстання фінансавых сродкаў, стымулявання працы медыцынскіх работнікаў і ажыццяўлення пазаведамаснага кантролю за іх прафесіянальнай дзейнасцю ўстановы аховы здароўя могуць фінансавацца праз арганізацыі, якія ажыццяўляюць медыцынскае страхаванне.

Парадак і ўмовы функцыянавання дзяржаўных устаноў аховы здароўя ў сістэме медыцынскага страхавання вызначаюцца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

## Раздзел IV. Лячэбна-прафілактычная дапамога

**Артыкул 17. Аказанне лячэбна-прафілактычнай дапамогі**

Лячэбна-прафілактычная дапамога аказваецца лячэбна-прафілактычнымі ўстановамі незалежна ад ведамаснай прыналежнасці і форм уласнасці, а таксама асобамі, якія маюць права займацца медыцынскай дзейнасцю.

Установа аховы здароўя, у якой грамадзянін знаходзіцца на медыцынскім абслугоўванні, абавязана забяспечыць медыцынскую дапамогу, а ў выпадку неабходнасці накіраваць яго на абследаванне і лячэнне ў іншыя лячэбна-прафілактычныя ўстановы.

**Артыкул 18. Аказанне хуткай медыцынскай дапамогі**

Хуткая медыцынская дапамога грамадзянам Рэспублікі Беларусь забяспечваецца дзяржаўнай сістэмай арганізацыі медыцынскай дапамогі.

Асобам, якія пацярпелі ад няшчасных выпадкаў або апынуліся з прычыны раптоўнага захворвання ў стане, што патрабуе тэрміновай медыцынскай дапамогі, такая дапамога аказваецца неадкладна бліжэйшай лячэбна-прафілактычнай установай незалежна ад ведамаснай прыналежнасці і форм уласнасці. Кампенсацыя расходаў у гэтых выпадках ажыццяўляецца ў парадку, які вызначаецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

За лжывы выклік хуткай медыцынскай дапамогі грамадзяне нясуць адказнасць у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 19. Абавязак садзейнічання медыцынскім і фармацэўтычным работнікам**

Органы мясцовага самакіравання, службовыя асобы абавязаны садзейнічаць медыцынскім і фармацэўтычным работнікам у аказанні медыцынскай дапамогі грамадзянам, а таксама ў прадастаўленні транспарту, сродкаў сувязі і іншай неабходнай дапамогі.

Пры наяўнасці акалічнасцей, якія пагражаюць жыццю хворага, медыцынскі або фармацэўтычны работнік мае права выкарыстаць любы від транспарту, які ёсць у дадзеных абставінах, для праезду да месца знаходжання хворага ці для яго транспарціроўкі ў лячэбна-прафілактычную ўстанову.

Адмова службовай асобы ў садзейнічанні медыцынскаму або фармацэўтычнаму работніку ў аказанні экстраннай медыцынскай дапамогі грамадзянам, а таксама ўладальнікаў транспарту прадаставіць яго для гэтых мэт цягне адказнасць у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

Парадак кампенсавання расходаў, звязаных з аказаннем экстраннай медыцынскай дапамогі, вызначаецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 20. Накіраванне грамадзян на кансультацыю і лячэнне за межы Рэспублікі Беларусь**

Грамадзяне маюць права на кансультацыю і лячэнне за межамі Рэспублікі Беларусь.

Падстава і парадак накіравання на кансультацыю і лячэнне грамадзян за межы Рэспублікі Беларусь вызначаюцца заканадаўствам Рэспублікі Беларусь і адпаведных дзяржаў, калі міжнароднымі дагаворамі і пагадненнямі не ўстаноўлены іншы парадак.

**Артыкул 21. Парадак правядзення прафілактыкі, дыягностыкі і лячэння**

У медыцынскай практыцы прымяняюцца метады прафілактыкі, дыягностыкі і лячэння, лекавыя сродкі, медыцынскія прыборы, біятэхналогія, уключаючы генную інжынерыю, дазволеныя Міністэрствам аховы здароўя Рэспублікі Беларусь.

У інтарэсах лячэння хворых і з іх згоды, а ў адносінах да хворых, якія не дасягнулі 18-гадовага ўзросту, а таксама хворых, якія па стану свайго здароўя не здольныя да прыняцця ўсвядомленага рашэння, — са згоды бацькоў, апекуноў або папячыцеляў урач можа прымяняць навукова абгрунтаваныя, але яшчэ не дапушчаныя ва ўстаноўленым парадку да ўсеагульнага прымянення методыкі дыягностыкі, прафілактыкі і лячэння.

Парадак прымянення метадаў і сродкаў дыягностыкі, прафілактыкі і лячэння ўстанаўліваецца Міністэрствам аховы здароўя Рэспублікі Беларусь.

Метады дыягностыкі і лячэння, якія вядуць да часовага змянення свядомасці чалавека ці да маніпуліравання яго паводзінамі, уключаючы гіпноз, усыпленне і ўсе іншыя віды ўнушэння, могуць прымяняцца толькі падрыхтаванымі спецыялістамі, якія атрымалі ва ўстаноўленым парадку права ажыццяўляць такую дзейнасць.

Ніхто не можа быць падвергнуты прымусоваму медыцынскаму агляду, абследаванню, амбулаторнаму ці стацыянарнаму лячэнню, за выключэннем выпадкаў, спецыяльна агавораных дзеючым заканадаўствам.

**Артыкул 22. Медыцынскія ўмяшанні і прымяненне складаных метадаў дыягностыкі**

Медыцынскія ўмяшанні, у тым ліку хірургічныя аперацыі, пераліванне крыві і складаныя метады дыягностыкі прымяняюцца са згоды хворых, а ў адносінах да асоб, якія не дасягнулі 18-гадовага ўзросту, а таксама хворых, якія па стану свайго здароўя не здольныя да прыняцця ўсвядомленага рашэння, — са згоды іх бліжэйшых родных, апекуноў ці папячыцеляў. У выпадку, калі прамаруджванне хірургічнага ўмяшання, пералівання крыві, прымянення складаных метадаў дыягностыкі пагражае жыццю хворага, а атрымаць згоду ўказаных асоб не ўяўляецца магчымым, рашэнне прымае кансіліум урачоў, а пры немагчымасці сабраць яго — лечачы ўрач.

Дадзеная згода можа быць у любы момант адклікана, за выключэннем тых выпадкаў, калі ўрачы ўжо прыступілі да медыцынскага ўмяшання і спыненне ці вяртанне да першапачатковага стану немагчымы або звязаны з пагрозай для жыцця ці здароўя хворага.

**Артыкул 23. Правядзенне клінічных і медыка-біялагічных даследаванняў у медыцыне**

З лячэбнай ці навуковай мэтай у медыцынскіх установах кваліфікаванымі спецыялістамі і практыкуючымі ўрачамі могуць праводзіцца на чалавеку клінічныя і медыка-біялагічныя даследаванні і эксперыменты толькі з пісьмовай згоды паўналетняй асобы, якая падвяргаецца даследаванню, эксперыменту, азнаёмленай з іх мэтай, вынікамі, якія чакаюцца, і магчымымі вынікамі для яе здароўя.

Клінічныя і медыка-біялагічныя даследаванні і эксперыменты могуць праводзіцца на чалавеку пры пацвярджэнні іх навуковай абгрунтаванасці.

Клінічныя і медыка-біялагічныя даследаванні і эксперыменты павінны быць спынены па патрабаванню асобы, якая падвяргаецца даследаванню, а таксама ў выпадку ўзнікнення пагрозы яе жыццю або здароўю.

Дазвол на правядзенне эксперыменту могуць даць спецыяльныя камісіі, якія ствараюцца пры органах аховы здароўя. Адказнасць за правядзенне эксперыменту нясуць эксперыментатары, а таксама камісіі, што дазволілі правядзенне эксперыменту.

Забараняецца правядзенне клінічных і медыка-біялагічных эксперыментаў над недзеяздольнымі, непаўналетнімі і грамадзянамі, якія пакутуюць псіхічнымі расстройствамі або захворваннямі.

**Артыкул 24. Прафілактыка інваліднасці і медыцынская рэабілітацыя інвалідаў**

Прафілактыка інваліднасці і медыцынская рэабілітацыя інвалідаў ажыццяўляюцца органамі аховы здароўя, прадпрыемствамі, установамі і арганізацыямі незалежна ад ведамаснай прыналежнасці і форм уласнасці ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 25. Пратэзная і артапедычная дапамога**

Грамадзяне, якія маюць патрэбу ў пратэзнай і артапедычнай дапамозе, карыгіруючых вырабах, слыхавых апаратах, забяспечваюцца імі органамі аховы здароўя і сацыяльнага забеспячэння. Катэгорыі асоб, якія падлягаюць бясплатнаму ці льготнаму забеспячэнню ўказанымі прадметамі, а таксама ўмовы і парадак забеспячэння імі ўстанаўліваюцца заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

## Раздзел V. Медыка-санітарнае забеспячэнне хворых, якія прадстаўляюць сацыяльную небяспеку

**Артыкул 26. Спецыяльныя меры прафілактыкі і лячэння**

У мэтах аховы здароўя насельніцтва органы аховы здароўя абавязаны ажыццяўляць спецыяльныя меры прафілактыкі і лячэння захворванняў, якія прадстаўляюць небяспеку для навакольных (туберкулёз, венерычныя захворванні, захворванне на СНІД, лепра), а таксама каранцінных захворванняў.

Парадак медыцынскага агляду і лячэння хворых, якія маюць указаныя захворванні, а таксама пералік каранцінных захворванняў вызначаюцца Міністэрствам аховы здароўя Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 27. Медыцынскі агляд і лячэнне грамадзян, якія маюць сацыяльна небяспечныя захворванні або каранцінныя інфекцыі**

Грамадзяне, якія жадаюць прайсці медыцынскі агляд для вызначэння наяўнасці або адсутнасці сацыяльна небяспечных захворванняў (туберкулёз, венерычныя захворванні, захворванне на СНІД, лепра) або заражэння вірусам імунадэфіцыту чалавека, маюць права на ананімны медыцынскі агляд.

Грамадзяне, у адносінах да якіх ёсць дастатковыя падставы меркаваць, што яны маюць указаныя захворванні або з'яўляюцца носьбітамі віруса імунадэфіцыту чалавека і ўхіляюцца ад медыцынскага агляду, могуць быць падвергнуты такому агляду прымусова, а грамадзяне, якія маюць венерычныя захворванні, і грамадзяне, хворыя на туберкулёз, якія выдзяляюць мікрабактэры, у выпадку ўхілення ад лячэння могуць быць падвергнуты і прымусоваму лячэнню.

Прымусовы медыцынскі агляд такіх асоб праводзіцца па рашэнню ўстаноў аховы здароўя з санкцыі пракурора, а прымусовыя шпіталізацыя і лячэнне — па рашэнню суда ў парадку, які ўстанаўліваецца актамі заканадаўства Рэспублікі Беларусь.

Замежныя грамадзяне і асобы без грамадзянства ў выпадку ўхілення ад агляду на выяўленне заражэння вірусам імунадэфіцыту чалавека (захворванне на СНІД) або прафілактычнага нагляду могуць быць выдвараны з Рэспублікі Беларусь у парадку, устаноўленым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

Дыпламатычныя супрацоўнікі замежных дыпламатычных прадстаўнічых і консульскіх устаноў і іншыя асобы, якія карыстаюцца на тэрыторыі рэспублікі дыпламатычнымі прывілеямі і імунітэтамі, могуць быць агледжаны на заражэнне вірусам імунадэфіцыту чалавека (захворванне на СНІД) толькі з іх згоды. Прапанову такім асобам прайсці агляд Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь папярэдне ўзгадняе з Міністэрствам замежных спраў Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 28. Адказнасць за распаўсюджванне венерычных захворванняў або віруса імунадэфіцыту чалавека**

Асобы, у адносінах да якіх атрыманы даныя аб наяўнасці венерычных захворванняў або заражэнні вірусам імунадэфіцыту чалавека (захворванне на СНІД), папярэджваюцца органамі і ўстановамі аховы здароўя ў пісьмовай форме аб неабходнасці захавання мер засцярогі па нераспаўсюджванню гэтых захворванняў і аб крымінальнай адказнасці ў адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам за яўнае пастаўленне ў небяспеку заражэння або заражэнне іншай асобы, а асобы, якія маюць венерычныя захворванні, папярэджваюцца таксама аб крымінальнай адказнасці за ўхіленне ад лячэння.

**Артыкул 29. Прававая і сацыяльная абарона асоб, заражаных вірусам імунадэфіцыту чалавека**

Асобы, якія з'яўляюцца носьбітамі віруса імунадэфіцыту чалавека і хворыя на СНІД, не могуць быць на гэтай падставе падвергнуты якой-небудзь дыскрымінацыі.

Не дапускаюцца звальненне з работы, адмова ў прыёме на работу, у лячэбныя ўстановы, у прыёме дзяцей у дзіцячыя ўстановы, а таксама ўшчамленне іншых правоў і абмежаванне законных інтарэсаў такіх асоб толькі на падставе таго, што яны з'яўляюцца вірусаносьбітамі або хворымі на СНІД, таксама як і ўшчамленне жыллёвых і іншых правоў і законных інтарэсаў родных і блізкіх інфіцыраваных.

Сацыяльнае забеспячэнне асоб, якія з'яўляюцца носьбітамі віруса імунадэфіцыту чалавека і хворымі на СНІД, ажыццяўляецца ў парадку, устаноўленым актамі заканадаўства Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 30. Лячэнне хворых на хранічны алкагалізм або наркаманію**

Хворыя на хранічны алкагалізм або наркаманію абавязаны праходзіць лячэнне ў лячэбна-прафілактычных установах органаў аховы здароўя.

Рашэнне аб прызнанні асобы хворай на хранічны алкагалізм або наркаманію прымаецца ўрачамі-нарколагамі ўстаноў аховы здароўя.

Прымусовае абследаванне з мэтай устанаўлення дыягназу аб алкагалізме або наркаманіі ажыццяўляецца на падставе матываванай пастановы органаў унутраных спраў, а прымусовае лячэнне — па рашэнню суда.

Хворыя на хранічны алкагалізм або наркаманію, якія прайшлі прымусовую медыка-сацыяльную рэабілітацыю, знаходзяцца пад наглядам у лячэбна-прафілактычных установах па месцы жыхарства на працягу тэрміну, што вызначаецца органамі аховы здароўя.

**Артыкул 31. Шпіталізацыя грамадзян, якія пакутуюць псіхічнымі расстройствамі і захворваннямі**

Грамадзянам, якія пакутуюць псіхічнымі расстройствамі або захворваннямі, лячэбна-прафілактычная дапамога аказваецца медыцынскімі работнікамі, што маюць адпаведную падрыхтоўку ў галіне псіхіятрыі.

Грамадзяне, якія маюць выражаныя псіхічныя расстройствы ці захворванні і прадстаўляюць небяспеку для навакольных або ўшчамляюць законныя правы і інтарэсы іншых асоб, а таксама ўчыняюць дзеянні, што прадстаўляюць небяспеку для іх жыцця і здароўя ці ў сілу хваравітага стану не задавальняюць свае жыццёвыя патрэбнасці, могуць быць у парадку неадкладнай псіхіятрычнай дапамогі шпіталізаваны ў псіхіятрычную (псіханеўралагічную) установу без іх згоды, без згоды родных або іншых законных прадстаўнікоў. У гэтым выпадку хворы павінен быць на працягу сутак агледжаны камісіяй урачоў-псіхіятраў, якая разглядае пытанне аб правільнасці шпіталізацыі і вызначае неабходнасць далейшага знаходжання хворага ў псіхіятрычнай (псіханеўралагічнай) установе. Аб рашэнні камісіі ўстанова аховы здароўя паведамляе органу аховы здароўя па падпарадкаванасці, родным хворага ці яго законным прадстаўнікам.

Парадак шпіталізацыі і аказання медыцынскай дапамогі грамадзянам, якія пакутуюць псіхічнымі расстройствамі і захворваннямі, устанаўліваецца Міністэрствам аховы здароўя Рэспублікі Беларусь.

Асобы, якія змясцілі ў псіхіятрычную бальніцу заведама псіхічна здаровага грамадзяніна, прыцягваюцца да адказнасці ў парадку, устаноўленым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

## Раздзел VI. Ахова мацярынства і дзяцінства

**Артыкул 32. Абарона інтарэсаў маці і дзіцяці**

Мацярынства ў Рэспубліцы Беларусь ахоўваецца і заахвочваецца дзяржавай; жанчынам ствараюцца ўмовы, якія дазваляюць спалучаць працу з мацярынствам; забяспечваецца прававая абарона, матэрыяльная і маральная падтрымка мацярынства і дзяцінства.

Грамадзяне, якія парушаюць правы і законныя інтарэсы маці і дзіцяці, прыцягваюцца да адказнасці ў парадку, устаноўленым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 33. Медыцынская дапамога маці і нованароджаным дзецям**

Медыцынскі нагляд за станам здароўя жанчын у перыяд цяжарнасці, медыка-генетычнае абследаванне, а таксама медыцынская дапамога пры родах маці і нованароджанаму дзіцяці ажыццяўляюцца ў дзяржаўных установах аховы здароўя, а таксама іншых установах, што вызначаюцца Міністэрствам аховы здароўя Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 34. Арганізацыя аказання медыцынскай дапамогі дзецям і падлеткам**

Дзеці і падлеткі знаходзяцца пад дыспансерным наглядам у дзяржаўных установах аховы здароўя.

Дзецям, якія знаходзяцца на выхаванні ў дзіцячых установах і вучацца ў школах, адміністрацыя забяспечвае неабходныя ўмовы для захавання і ўмацавання здароўя і гігіенічнага выхавання. Аб'ём і змест заняткаў вызначаюцца па ўзгадненню з органамі аховы здароўя.

Пры стацыянарным лячэнні дзіцяці ва ўзросце да 14 гадоў, якое мае патрэбу па заключэнню ўрачоў у дадатковым доглядзе, працуючым маці ці бацьку або іншаму працуючаму роднаму, які фактычна ажыццяўляе догляд за дзіцем, а таксама працуючым бацьку ці маці — выхавацелям апякунскай (прыёмнай) сям'і, апекуну дзіцяці прадастаўляецца магчымасць знаходзіцца з ім у лячэбна-прафілактычнай установе.

**Артыкул 35. Аказанне медыцынскай дапамогі дзецям-інвалідам**

Дзяржаўныя ўстановы аховы здароўя абавязаны забяспечыць дзецям-інвалідам з дзяцінства лячэнне і пратэзаванне, а таксама медыцынскі кантроль за станам іх здароўя.

Дзеці з дэфектамі фізічнага або псіхічнага развіцця ўтрымліваюцца ў дамах дзіцяці, дзіцячых дамах і спецыялізаваных дзіцячых установах за дзяржаўны кошт.

## Раздзел VII. Донарства і трансплантацыя органаў і тканак

**Артыкул 36. Донарства крыві**

Донарства крыві і яе кампанентаў — добраахвотны ўдзел асобы ў ахове здароўя грамадзян, праяўленне гуманізму і міласэрнасці, ганаровы ўклад грамадзян у ахову здароўя Рэспублікі Беларусь.

Донарам крыві і яе кампанентаў можа быць кожны грамадзянін Рэспублікі Беларусь, які дасягнуў 18-гадовага ўзросту, прайшоў медыцынскі агляд і не пакутуе захворваннямі, пры якіх донарства проціпаказана.

Парадак медыцынскага агляду донараў, забор крыві і яе кампанентаў устанаўліваюцца Міністэрствам аховы здароўя Рэспублікі Беларусь.

Парадак кампенсавання расходаў, гарантыі і льготы донарам устанаўліваюцца актамі заканадаўства Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 37. Донарства і трансплантацыя органаў і тканак**

Донарам органаў і тканак можа быць любы грамадзянін, які дасягнуў 18-гадовага ўзросту, псіхічна і фізічна здаровы, даў пісьмовую згоду на правядзенне такой аперацыі і ўсведамляе вынікі і рызыку яе правядзення для здароўя.

Забор органаў і тканак можа праводзіцца ў памёршай асобы, якая дала пры жыцці згоду на выкарыстанне пасля смерці органаў і тканак у медыцынскіх мэтах, а пры яе адсутнасці — са згоды блізкіх родных або іншых законных прадстаўнікоў.

Забор органаў і тканак у памёршых можа праводзіцца таксама ў выпадку, калі пры жыцці чалавека ім не было афармлена ва ўстаноўленым парадку пярэчанне на трансплантацыю яго органаў і тканак пасля смерці, а даведацца аб думцы блізкіх родных або іншых законных прадстаўнікоў памёршага не ўяўляецца магчымым.

Парадак і ўмовы трансплантацыі органаў і тканак чалавека вызначаюцца актамі заканадаўства Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 38. Штучнае апладатварэнне або імплантацыя эмбрыёна**

Штучнае апладатварэнне жанчыны або імплантацыя ёй эмбрыёна могуць быць праведзены на падставе яе свабоднага волевыяўлення, а ў адносінах да жанчыны, якая знаходзіцца ў шлюбе, — на падставе згоды мужа і жонкі.

**Артыкул 39. Пакрыццё ўрону ў выпадку пашкоджання здароўя донара або яго смерці**

У выпадку пашкоджання здароўя донара, а таксама смерці донара, звязанай з выкананнем донарскай функцыі, пакрыццё матэрыяльнага ўрону донару і членам яго сям'і ажыццяўляецца ў парадку, устаноўленым актамі заканадаўства Рэспублікі Беларусь.

## Раздзел VIII. Санаторна-курортнае лячэнне

**Артыкул 40. Стварэнне сеткі санаторна-курортных устаноў і ўстаноў адпачынку**

У мэтах папярэджання захворванняў і аздараўлення грамадзян дзяржава стварае ўмовы для развіцця сеткі санаторна-курортных устаноў, дамоў адпачынку, пансіянатаў, турысцкіх баз і іншых устаноў аздараўленчага лячэння і адпачынку.

**Артыкул 41. Карыстанне санаторна-курортнымі ўстановамі і ўстановамі адпачынку**

Грамадзяне маюць роўныя правы карыстання санаторыямі, дамамі адпачынку, пансіянатамі, турысцкімі базамі і іншымі ўстановамі аздараўленчага лячэння і адпачынку.

Асобныя катэгорыі грамадзян карыстаюцца санаторна-курортнымі ўстановамі і ўстановамі адпачынку на льготных умовах або бясплатна ў адпаведнасці з актамі заканадаўства Рэспублікі Беларусь.

Лячэнне дзяцей у дзіцячых санаторыях і санаторыях для бацькоў з дзецьмі ажыццяўляецца бясплатна.

**Артыкул 42. Санаторна-курортнае лячэнне**

Агульныя паказанні і проціпаказанні для стацыянарнага і амбулаторнага лячэння на курортах і ў санаторыях, а таксама парадак медыцынскага адбору і накіравання хворых на санаторна-курортнае лячэнне ўстанаўліваюцца Міністэрствам аховы здароўя Рэспублікі Беларусь.

## Раздзел IX. Медыцынская экспертыза

**Артыкул 43. Экспертыза працаздольнасці**

Экспертыза часовай непрацаздольнасці грамадзян ажыццяўляецца ва ўстановах аховы здароўя ўрачом або ўрачэбна-кансультацыйнай камісіяй.

Часовая непрацаздольнасць засведчваецца дакументам, які з'яўляецца падставай для вызвалення грамадзяніна ад работы.

Экспертыза пастаяннай або працяглай непрацаздольнасці грамадзян ажыццяўляецца медыка-рэабілітацыйнымі экспертнымі камісіямі органаў аховы здароўя.

Заключэнні медыка-рэабілітацыйных экспертных камісій аб умовах і характары працы інвалідаў з'яўляюцца абавязковымі для наймальнікаў. Наймальнікі, якія не выконваюць рашэнняў медыка-рэабілітацыйных экспертных камісій, нясуць адказнасць у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

Парадак, арганізацыя і правядзенне экспертызы працаздольнасці вызначаюцца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 44. Судова-медыцынская і судова-псіхіятрычная экспертызы**

Судова-медыцынская і судова-псіхіятрычная экспертызы праводзяцца па пастанове асобы, якая праводзіць дазнанне, следчага, пракурора, а таксама па вызначэнню суда (суддзі).

Парадак арганізацыі і правядзення судова-медыцынскай і судова-псіхіятрычнай экспертыз устанаўліваецца заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 45. Паталагаанатамічнае даследаванне**

Паталагаанатамічнае даследаванне праводзіцца з мэтай высвятлення характару паталагічных змяненняў, якія ёсць у органах і тканках, і ўстанаўлення прычыны смерці.

Паталагаанатамічнае даследаванне праводзіцца па ініцыятыве ўстановы аховы здароўя са згоды родных памёршага.

Парадак правядзення паталагаанатамічнага даследавання і пералік выпадкаў, пры якіх праводзіцца абавязковае паталагаанатамічнае даследаванне, устанаўліваюцца Міністэрствам аховы здароўя Рэспублікі Беларусь.

## Раздзел X. Забеспячэнне лекавымі сродкамі і вырабамі медыцынскага прызначэння

**Артыкул 46. Парадак забеспячэння лекавымі сродкамі і вырабамі медыцынскага прызначэння**

Забеспячэнне насельніцтва і ўстаноў аховы здароўя лекавымі сродкамі і вырабамі медыцынскага прызначэння ажыццяўляецца аптэчнымі ўстановамі, якія ствараюцца ў адпаведнасці з наменклатурай, зацверджанай Міністэрствам аховы здароўя Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 47. Вытворчасць і рэалізацыя лекавых сродкаў**

Вытворчасць і рэалізацыя лекавых сродкаў ажыццяўляюцца толькі пры наяўнасці дазволу (ліцэнзіі).

Вытворчасць, рэалізацыя і мэтавае выкарыстанне наркатычных і прыроўненых да іх лекавых сродкаў ажыццяўляюцца ў адпаведнасці з заканадаўчымі актамі Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 48. Рэгістрацыя лекавых сродкаў**

Лекавыя сродкі, дазволеныя да прымянення ў медыцынскай практыцы Рэспублікі Беларусь, падлягаюць рэгістрацыі ў дзяржаўным рэестры.

Парадак рэгістрацыі лекавых сродкаў у дзяржаўным рэестры вызначаецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 49. Дазвол на ўвоз з-за мяжы лекавых сродкаў**

Увоз з-за мяжы лекавых сродкаў, не зарэгістраваных у Рэспубліцы Беларусь, для правядзення навукова-даследчых работ і клінічных выпрабаванняў праводзіцца з дазволу Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь.

Увоз псіхатропных, наркатычных і прыроўненых да іх лекавых сродкаў ажыццяўляецца толькі пры наяўнасці дазволу (ліцэнзіі), выдадзенага ва ўстаноўленым парадку.

**Артыкул 50. Кантроль за якасцю і рэалізацыяй лекавых сродкаў і вырабаў медыцынскага прызначэння**

Кантроль за якасцю і рэалізацыяй лекавых сродкаў і вырабаў медыцынскага прызначэння ажыццяўляецца Міністэрствам аховы здароўя Рэспублікі Беларусь.

## Раздзел XI. Правы, абавязкі і адказнасць медыцынскіх і фармацэўтычных работнікаў

**Артыкул 51. Прафесіянальныя правы медыцынскіх і фармацэўтычных работнікаў**

Медыцынскімі і фармацэўтычнымі работнікамі з'яўляюцца асобы, якія займаюць пасады ўрачоў, правізараў, сярэдняга медыцынскага і фармацэўтычнага персаналу і дапушчаны да заняцця медыцынскай або фармацэўтычнай дзейнасцю ва ўстаноўленым парадку.

Прафесіянальныя правы і абавязкі медыцынскіх і фармацэўтычных работнікаў вызначаюцца Міністэрствам аховы здароўя Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 52. Медыцынская навука**

Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь ажыццяўляе кіраўніцтва навукова-даследчай работай у галіне медыцыны і забяспечвае своечасовае ўкараненне навуковых дасягненняў у практыку, а таксама ажыццяўляе падрыхтоўку спецыялістаў вышэйшай кваліфікацыі.

Прафесіянальная дзейнасць медыцынскіх і фармацэўтычных работнікаў грунтуецца на дасягненнях сусветнай і айчыннай медыцынскай навукі і практыкі.

**Артыкул 53. Права на заняцце медыцынскай і фармацэўтычнай дзейнасцю**

Права на заняцце медыцынскай і фармацэўтычнай дзейнасцю маюць асобы, якія пастаянна пражываюць у Рэспубліцы Беларусь і атрымалі спецыяльную падрыхтоўку ў вышэйшай або сярэдняй медыцынскай навучальнай установе.

Пералік навучальных устаноў, заканчэнне якіх дае права займацца медыцынскай і фармацэўтычнай дзейнасцю, вызначаецца Міністэрствам аховы здароўя Рэспублікі Беларусь.

Права працаваць у якасці ўрачоў маюць асобы, якія маюць дыплом урача і сертыфікат па адпаведнай урачэбнай спецыяльнасці.

Асобы, якія прайшлі ўрачэбную падрыхтоўку, прымаюць "клятву Гіпакрата". Тэкст клятвы і парадак яе прыняцця вызначаюцца Прэзідыумам Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

Асобы, якія прайшлі медыцынскую і фармацэўтычную падрыхтоўку ў навучальных установах замежных краін, дапускаюцца да медыцынскай і фармацэўтычнай дзейнасці ў парадку, які вызначаецца Міністэрствам аховы здароўя Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 54. Павышэнне кваліфікацыі медыцынскіх і фармацэўтычных работнікаў**

Медыцынскія і фармацэўтычныя работнікі павінны павышаць сваю кваліфікацыю.

Органы аховы здароўя абавязаны ствараць умовы медыцынскім і фармацэўтычным работнікам для павышэння іх прафесіянальных ведаў.

**(Заканчэнне на 4-й стар.)**

*Закон Рэспублікі Беларусь*

# Аб ахове здароўя

**(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.)**

Медыцынскія і фармацэўтычныя работнікі, якія не працавалі па сваёй прафесіі больш трох гадоў, павінны прайсці адпаведную падрыхтоўку ў парадку, што вызначаецца Міністэрствам аховы здароўя Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 55. Абавязак медыцынскіх і фармацэўтычных работнікаў аказваць медыцынскую дапамогу ў дарозе, на вуліцы і ў іншых грамадскіх месцах**

Кожны медыцынскі і фармацэўтычны работнік абавязаны аказваць медыцынскую дапамогу хвораму пры ўзнікшай у тым неабходнасці ў дарозе, на вуліцы і ў іншых грамадскіх месцах.

Медыцынскі або фармацэўтычны работнік, які не аказаў медыцынскай дапамогі хвораму без уважлівых прычын, нясе адказнасць у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 56. Абавязак медыцынскіх і фармацэўтычных работнікаў захоўваць прафесіянальную тайну**

Медыцынскія і фармацэўтычныя работнікі не маюць права выдаваць звесткі аб хваробах, інтымным і сямейным жыцці грамадзян, якія сталі ім вядомымі ў сілу выканання прафесіянальных абавязкаў.

Звесткі аб стане здароўя хворага могуць быць паведамлены яго родным, калі гэта абумоўлена неабходнасцю лячэння і догляду за хворым і не ажыццяўляецца супраць яго волі.

Медыцынскія і фармацэўтычныя работнікі абавязаны паведамляць аб стане здароўя грамадзян:

органам аховы здароўя, дазнання і следства, а таксама судам па іх патрабаванню;

праваахоўным органам пры выяўленні, што смерць або цялесныя пашкоджанні наступілі ў выніку знешніх уздзеянняў на арганізм (маюць гвалтоўны характар).

Медыцынскія і фармацэўтычныя работнікі не нясуць адказнасці за паведамленне звестак, якія складаюць прафесіянальную тайну, у працэсе расследавання і судовага разбору крымінальных і грамадзянскіх спраў па патрабаванню дазнавальніка, следчага, пракурора або суддзі (суда).

**Артыкул 57. Адказнасць за незаконнае лячэнне**

Заняцце лячэннем як прафесіяй асобай, якая не мае належнай медыцынскай адукацыі і належнага дазволу, цягне адказнасць у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

## Раздзел XII. Гарантыі прававой і сацыяльнай абароны медыцынскіх і фармацэўтычных работнікаў

**Артыкул 58. Абарона прафесіянальных правоў медыцынскіх і фармацэўтычных работнікаў**

Умяшанне ў дзейнасць медыцынскіх і фармацэўтычных работнікаў пры выкананні імі прафесіянальнага абавязку з боку службовых асоб і грамадзян забараняецца.

**Артыкул 59. Права медыцынскіх і фармацэўтычных работнікаў на кампенсацыю за выкарыстанне асабістага транспарту ў службовых мэтах**

Медыцынскім і фармацэўтычным работнікам, якія выкарыстоўваюць асабісты транспарт у службовых мэтах, выплачваецца грашовая кампенсацыя ў парадку і размерах, устаноўленых Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 60. Забеспячэнне медыцынскіх работнікаў тэлефонам**

Медыцынскія работнікі, якія прыцягваюцца да аказання экстраннай медыцынскай дапамогі, маюць права на ўстаноўку кватэрных тэлефонаў без чаргі па хадайніцтву органаў аховы здароўя.

**Артыкул 61. Прадастаўленне жылля медыцынскім і фармацэўтычным работнікам**

Медыцынскім і фармацэўтычным работнікам, якія пражываюць і працуюць у сельскай мясцовасці і ў рабочых пасёлках, прадастаўляюцца бясплатна кватэры з ацяпленнем і асвятленнем у парадку, устаноўленым актамі заканадаўства Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 62 . Заработная плата работнікаў аховы здароўя**

Заработная плата медыцынскіх і фармацэўтычных работнікаў рэгулюецца ўрадам Рэспублікі Беларусь зыходзячы з узроўню заработнай платы ў іншых галінах народнай гаспадаркі і з улікам прыярытэту галіны аховы здароўя.

## Раздзел XIII. Міжнародныя сувязі

**Артыкул 63. Правы замежных грамадзян і асоб без грамадзянства ў галіне аховы здароўя**

Замежныя грамадзяне і асобы без грамадзянства, якія пастаянна пражываюць на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, карыстаюцца тымі ж правамі ў галіне аховы здароўя, што і грамадзяне Рэспублікі Беларусь.

Парадак аказання медыцынскай дапамогі замежным грамадзянам і асобам без грамадзянства, якія часова пражываюць на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, вызначаецца Міністэрствам аховы здароўя Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 64. Асноўныя прынцыпы міжнароднага супрацоўніцтва ў галіне аховы здароўя**

Міжнароднае супрацоўніцтва Беларусі ў галіне аховы здароўя грунтуецца на прынцыпах міжнароднага права і заканадаўства Рэспублікі Беларусь.

Калі міжнародным дагаворам устаноўлены іншыя нормы, чым тыя, якія змяшчаюцца ў заканадаўстве Рэспублікі Беларусь аб ахове здароўя, то прымяняюцца нормы міжнароднага дагавора.

Прадпрыемствы, установы і арганізацыі аховы здароўя незалежна ад ведамаснай прыналежнасці і форм уласнасці маюць права ўстанаўліваць прамыя міжнародныя сувязі ў галіне аховы здароўя ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШУШКЕВІЧ.**

18 чэрвеня 1993 г.
г.Мінск.
№ 2435-XII

*Пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

# Аб парадку ўвядзення ў дзеянне Закона Рэспублікі Беларусь "Аб ахове здароўя"

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Закон Рэспублікі Беларусь "Аб ахове здароўя" ўвесці ў дзеянне з дня яго прыняцця.

Частку першую артыкула 15 увесці ў дзеянне з 1 студзеня 1994 года.

Артыкулы 20 і 59 увесці ў дзеянне з моманту прыняцця адпаведных актаў заканадаўства Рэспублікі Беларусь.

2. Прызнаць страціўшым сілу Закон Рэспублікі Беларусь "Аб ахове здароўя", прыняты 4 чэрвеня 1970 года (ЗЗ БССР, 1970 г., № 17, арт. 220; 1973 г., № 23, арт. 376; 1974 г., № 31, арт. 496, № 36, арт. 609; 1979 г., № 24, арт. 387; 1984 г., № 19, арт. 261; 1985 г., № 2, арт. 20, № 32, арт. 449; 1986 г., № 28, арт. 364; 1987 г., № 16, арт. 200, № 22, арт. 282, № 26, арт. 336; 1990 г., № 22, арт. 451; Ведамасці Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, 1991 г., № 23, арт. 312), з моманту ўвядзення ў дзеянне Закона Рэспублікі Беларусь "Аб ахове здароўя".

3. Устанавіць, што да прывядзення нарматыўных актаў Рэспублікі Беларусь у адпаведнасць з Законам Рэспублікі Беларусь "Аб ахове здароўя" прымяняюцца дзеючыя нарматыўныя акты пастолькі, паколькі яны не супярэчаць дадзенаму Закону.

4. Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь:

4.1. Распрацаваць і прадставіць у чацвёртым квартале 1993 года ў Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь праекты заканадаўчых актаў, якія вынікаюць з Закона Рэспублікі Беларусь "Аб ахове здароўя", а таксама прапановы аб прывядзенні заканадаўчых актаў Рэспублікі Беларусь у адпаведнасць з указаным Законам.

4.2. Да 1 верасня 1993 года прывесці рашэнні ўрада Рэспублікі Беларусь у адпаведнасць з Законам Рэспублікі Беларусь "Аб ахове здароўя" і забяспечыць перагляд і адмену міністэрствамі, дзяржаўнымі камітэтамі і ведамствамі Рэспублікі Беларусь іх нарматыўных актаў, у тым ліку інструкцый, якія супярэчаць дадзенаму Закону.

5. Кантроль за выкананнем гэтай пастановы ўскласці на Камісію Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па ахове здароўя, фізічнай культуры і сацыяльнаму забеспячэнню.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШУШКЕВІЧ.**

18 чэрвеня 1993 г.
г.Мінск.

*Пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

# Аб Фондзе сацыяльнай абароны насельніцтва Рэспублікі Беларусь

У мэтах удасканалення сістэмы фінансавання расходаў на сацыяльнае страхаванне, узмацнення дзяржаўнага кантролю за правільным і эфектыўным выкарыстаннем сродкаў на гэтыя мэты Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Утварыць з 1 ліпеня 1993 года на базе Пенсіённага фонду Рэспублікі Беларусь і Фонду сацыяльнага страхавання Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва Рэспублікі Беларусь як орган дзяржаўнага кіравання фінансамі сацыяльнага страхавання ў рэспубліцы.

Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва Рэспублікі Беларусь з'яўляецца самастойнай фінансава-крэдытнай арганізацыяй і непасрэдна падпарадкоўваецца Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь. Грашовыя сродкі гэтага Фонду ў склад дзяржаўнага бюджэту не ўваходзяць і фарміруюцца за кошт абавязковых узносаў наймальнікаў, асоб, якія займаюцца прадпрымальніцкай дзейнасцю, грамадзян, сродкаў дзяржаўнага бюджэту Рэспублікі Беларусь і іншых паступленняў.

Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва Рэспублікі Беларусь з'яўляецца правапераемнікам Пенсіённага фонду Рэспублікі Беларусь і Фонду сацыяльнага страхавання.

2. Зацвердзіць Палажэнне аб Фондзе сацыяльнай абароны насельніцтва Рэспублікі Беларусь і Парадак выплаты страхавых узносаў наймальнікамі, асобамі, якія займаюцца прадпрымальніцкай дзейнасцю, і грамадзянамі ў Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва Рэспублікі Беларусь (прыкладаюцца).

3. Устанавіць, што частка расходаў, якія ажыццяўляюцца прафсаюзамі Беларусі па аздараўленню насельніцтва, фінансуецца за кошт бюджэту Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва Рэспублікі Беларусь, іх аб'ём штогод вызначаецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь пры зацвярджэнні бюджэту гэтага Фонду.

4. Нацыянальнаму банку Рэспублікі Беларусь пры магчымым часовым недахопе сродкаў у Фондзе сацыяльнай абароны насельніцтва Рэспублікі Беларусь выдаваць Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь ільготны крэдыт для забеспячэння своечасовага фінансавання выплаты дзяржаўных пенсій і дапамог.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШУШКЕВІЧ.**

10 чэрвеня 1993 г.
г.Мінск
№2367-XII

*Дадатак 1*

# Палажэнне аб Фондзе сацыяльнай абароны насельніцтва Рэспублікі Беларусь

## 1. Агульныя палажэнні

Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва Рэспублікі Беларусь* ажыццяўляе дзяржаўнае кіраванне фінансамі сацыяльнага страхавання, з'яўляецца самастойнай фінансава-крэдытнай арганізацыяй, арганізуе сваю дзейнасць у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь, гэтым Палажэннем і непасрэдна падпарадкоўваецца Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Грашовыя сродкі Фонду не ўваходзяць у склад дзяржаўнага бюджэту, не падлягаюць адабранню і захоўваюцца ва ўстановах банкаў.

## 2. Задачы і функцыі Фонду

Галоўнымі задачамі Фонду з'яўляюцца:

фінансаванне расходаў на пенсіі, дапамогі на дзяцей і іншыя сацыяльныя выплаты ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь аб сацыяльным страхаванні;

збор і акумуляцыя страхавых узносаў, прызначаных для пенсіённага забеспячэння, выплаты дапамог і іншых расходаў;

ажыццяўленне расшыранага ўзнаўлення сродкаў Фонду на аснове прынцыпу самафінансавання;

міжнароднае супрацоўніцтва па праблемах, звязаных з сацыяльным страхаваннем.

У мэтах забеспячэння выканання ўказаных задач Фонд:

ажыццяўляе фінансаванне дзяржаўных пенсій, дапамог і іншых сацыяльных выплат;

рыхтуе прапановы аб размерах страхавых узносаў і ўносіць іх на разгляд Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь для далейшага ўнясення на зацвярджэнне Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь;

вызначае парадак выкарыстання сродкаў Фонду;

ажыццяўляе кантроль за правільным расходаваннем сродкаў Фонду;

каардынуе работу мясцовых органаў Фонду і аказвае ім неабходную метадычную дапамогу;

забяспечвае на тэрыторыі рэспублікі ўстаноўлены заканадаўствам Рэспублікі Беларусь парадак акумуляцыі ў Фонд страхавых узносаў і іншых паступленняў;

супрацоўнічае з міжнароднымі арганізацыямі і дзяржавамі па пытаннях, якія адносяцца да яго кампетэнцыі, удзельнічае ў распрацоўцы і рэалізацыі ва ўстаноўленым парадку міжнародных дагавораў і пагадненняў Рэспублікі Беларусь па пытаннях дзяржаўнага сацыяльнага страхавання;

забяспечвае капіталізацыю сродкаў Фонду, а таксама прыцягненне ў яго добраахвотных узносаў (у тым ліку валютных каштоўнасцей) фізічных і юрыдычных асоб;

ажыццяўляе кантроль за своечасовым і поўным паступленнем у Фонд страхавых узносаў і згодна з дзеючым заканадаўствам прымае адпаведныя меры да страхавальнікаў, якія парушаюць парадак выплаты гэтых узносаў;

удзельнічае ў разглядзе прапаноў міністэрстваў і ведамстваў, аблвыканкамаў і Мінскага гарвыканкама, прадпрыемстваў і арганізацый аб устанаўленні і дыферэнцыяцыі тарыфаў узносаў на дзяржаўнае сацыяльнае страхаванне ў залежнасці ад небяспечнасці, шкоднасці, цяжкасці работ і іншых умоў працы;

сумесна з Дзяржаўным камітэтам Рэспублікі Беларусь па эканоміцы і планаванню, Міністэрствам сацыяльнага забеспячэння Рэспублікі Беларусь, Міністэрствам фінансаў Рэспублікі Беларусь, Дзяржаўным камітэтам Рэспублікі Беларусь па працы і сацыяльнай абароне насельніцтва, прафсаюзамі і іншымі грамадскімі аб'яднаннямі, дзейнасць якіх звязана з абаронай інтарэсаў пенсіянераў, інвалідаў і дзяцей, вызначае напрамкі расходавання на сацыяльнае забеспячэнне і дабрачынныя мэты сродкаў, што паступаюць у якасці добраахвотных узносаў, а таксама даходаў ад капіталізацыі сродкаў Фонду і іншых крыніц, забяспечвае іх рацыянальнае выкарыстанне;

удзельнічае ў падрыхтоўцы прапаноў па ўдасканаленню дзяржаўнага сацыяльнага страхавання, парадку павышэння пенсій і дапамог у сувязі са змяненнем індэкса кошту жыцця і ростам заработнай платы;

вывучае і абагульняе практыку прымянення нарматыўных актаў па пытаннях выплаты страхавых узносаў і ўносіць у Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь прапановы па яе ўдасканаленню;

арганізуе дзяржаўны банк даных па ўсіх катэгорыях плацельшчыкаў страхавых узносаў у Фонд;

праводзіць растлумачальную работу сярод насельніцтва і юрыдычных асоб па пытаннях, якія адносяцца да кампетэнцыі Фонду, інфармуе грамадскасць рэспублікі аб сваёй дзейнасці;

вядзе ва ўстаноўленым парадку бухгалтарскую і статыстычную справаздачнасць, нясе адказнасць за яе дакладнасць.

## 3. Сродкі Фонду

Бюджэт Фонду ўтвараецца за кошт:

страхавых узносаў наймальнікаў і асоб, якія займаюцца прадпрымальніцкай дзейнасцю, у тым ліку членаў сялянскіх (фермерскіх) гаспадарак;

абавязковых страхавых узносаў грамадзян;

асігнаванняў з рэспубліканскага бюджэту (на выплату пенсій і дапамог ваеннаслужачым тэрміновай службы і іх сем'ям, іншых расходаў у адпаведнасці з заканадаўствам);

добраахвотных узносаў (у тым ліку валютных каштоўнасцей) ад фізічных і юрыдычных асоб, а таксама часткі даходаў ад капіталізацыі сродкаў Фонду і іншых паступленняў. Пры гэтым сродкі павінны перадавацца пад працэнт, як правіла, не менш чым заліковая стаўка Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь;

сродкаў наймальнікаў, прызначаных на выплату пенсій у адпаведнасці з пунктам "б" часткі першай артыкула 12 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб пенсіённым забеспячэнні";

сродкаў, якія паступаюць па рэгрэсныхісках.

Збіранне ўзносаў на дзяржаўнае сацыяльнае страхаванне, пералічэнне добраахвотных узносаў і іншых паступленняў, залічэнне сродкаў Фонду на адпаведныя рахункі, іх улік і выкарыстанне ажыццяўляюцца ў парадку, які вызначаецца Праўленнем Фонду сумесна з Міністэрствам фінансаў Рэспублікі Беларусь, Міністэрствам сацыяльнага забеспячэння Рэспублікі Беларусь, Дзяржаўным камітэтам Рэспублікі Беларусь па працы і сацыяльнай абароне насельніцтва, Нацыянальным банкам Рэспублікі Беларусь.

Сродкі Фонду накіроўваюцца на:

1) выплату:

пенсій па ўзросту, у тым ліку для працуючых пенсіянераў, па інваліднасці, з выпадку страты карміцеля, за выслугу гадоў, сацыяльных пенсій;

дапамог па сацыяльнаму страхаванню (дапамогі па часовай непрацаздольнасці, па цяжарнасці і родах, з выпадку нараджэння дзіцяці, на пахаванне);

расходаў на аздараўленне працуючых (санаторна-курортнае лячэнне і адпачынак працуючых і іх дзяцей, датацыі на ўтрыманне санаторыяўпрафілакторыяў, дзіцячых аздараўленчых лагераў і дзіцяча-юнацкіх спартыўных школ);

штомесячных дапамог і надбавак да іх сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей;

штомесячных дапамог па догляду за інвалідам I групы, дзіцем-інвалідам ва ўзросце да 16 гадоў, пенсіянерам , які дасягнуў 80-гадовага ўзросту;

штомесячных дапамог на дзяцей ва ўзросце да 16 гадоў, інфіцыраваных вірусам імунадэфіцыту чалавека або хворых на СНІД;

пенсій грамадзянам, якія выязджаюць за межы Рэспублікі Беларусь, у адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам і міжнароднымі дагаворамі Рэспублікі Беларусь;

2) павышэнне сацыяльных пенсій у сувязі са змяненнем індэкса кошту жыцця і ростам заработнай платы;

3) аказанне матэрыяльнай дапамогі састарэлым і непрацаздольным грамадзянам;

4) пакрыццё расходаў па афармленню рэгрэсных іскаў;

5) забеспячэнне бягучай дзейнасці і ўтрыманне органаў кіравання Фонду.

## 4. Парадак распрацоўкі, зацвярджэння і расходавання бюджэту Фонду

Праект бюджэту Фонду па крыніцах утварэння сродкаў распрацоўваецца Фондам па ўзгадненню з Міністэрствам фінансаў Рэспублікі Беларусь і Дзяржаўным камітэтам Рэспублікі Беларусь па эканоміцы і планаванню, а па артыкулах расходаў — на падставе разлікаў неабходных сродкаў на выплату пенсій, дапамог і на аздараўленчыя мерапрыемствы, якія прадстаўляюцца Міністэрствам сацыяльнага забеспячэння Рэспублікі Беларусь і прафсаюзамі, і зацвярджаецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Справаздача аб выкананні бюджэту Фонду зацвярджаецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Фонд прадстаўляе штоквартальна Міністэрству фінансаў Рэспублікі Беларусь справаздачу аб выкананні даходаў і расходаў Фонду.

Праекты бюджэтаў абласных і Мінскага гарадскога ўпраўленняў Фонду з размеркаваннем сродкаў па крыніцах утварэння і артыкулах расходаў распрацоўваюцца гэтымі ўпраўленнямі з удзелам адпаведных фінансавых органаў і органаў сацыяльнага забеспячэння і зацвярджаюцца Праўленнем Фонду.

## 5. Кіраванне сістэмай Фонду

Органамі кіравання Фонду з'яўляюцца яго Праўленне, абласныя і Мінскае гарадское ўпраўленні.

Фонд вырашае ўскладзеныя на яго задачы ў цесным узаемадзеянні з мясцовымі Саветамі народных дэпутатаў, а таксама міністэрствамі, ведамствамі, грамадскімі аб'яднаннямі рэспублікі, дзейнасць якіх звязана з абаронай інтарэсаў працуючых грамадзян, пенсіянераў, інвалідаў і дзяцей.

У склад Праўлення Фонду ўваходзяць старшыня Праўлення, яго намеснікі па пасадзе, а таксама на парытэтнай аснове прадстаўнікі дзяржаўных органаў, наймальнікаў і прафсаюзаў.

У склад Праўлення Фонду могуць уваходзіць прадстаўнікі абласных і Мінскага гарадскога ўпраўленняў Фонду.

Старшыня Праўлення, яго намеснікі і персанальны склад Праўлення Фонду зацвярджаюцца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Праўленне Фонду:

нясе адказнасць за своечасовае і поўнае фінансаванне са сродкаў Фонду расходаў на выплату пенсій і дапамог;

вызначае перспектыўныя і чарговыя задачы Фонду;

у межах сваёй кампетэнцыі зацвярджае палажэнні і інструкцыі па пытаннях, якія адносяцца да дзейнасці Фонду;

разглядае праект бюджэту Фонду, зацвярджае каштарыс расходаў на ўтрыманне яго органаў, а таксама справаздачу аб іх выкананні;

зацвярджае Палажэнне аб капіталізацыі сродкаў Фонду;

назначае па ўзгадненню з мясцовымі органамі ўлады кіраўнікоў упраўленняў Фонду ў абласцях і горадзе Мінску.

Праўленне Фонду склікаецца па меры неабходнасці, але не радзей чым адзін раз у квартал. Яно правамоцна прымаць рашэнні пры наяўнасці не менш дзвюх трацей членаў Праўлення. Рашэнні прымаюцца простай большасцю галасоў прысутных членаў Праўлення.

Рашэнні Праўлення праводзяцца ў жыццё яго пастановамі.

Старшыня Праўлення Фонду:

ажыццяўляе кіраўніцтва дзейнасцю Фонду;

уносіць на разгляд Праўлення прапановы па пытаннях дзейнасці Фонду;

прадстаўляе Фонд ва ўзаемаадносінах з дзяржаўнымі, грамадскімі, міжнароднымі і замежнымі арганізацыямі.

Старшыня Праўлення мае права прымаць рашэнні па ўсіх іншых пытаннях дзейнасці Фонду, не аднесеных да кампетэнцыі Праўлення.

Службовыя асобы Фонду і яго органаў на месцах маюць права пры выкананні службовых абавязкаў наведваць ва ўстаноўленым парадку прадпрыемствы, установы і арганізацыі і вывучаць пытанні, якія адносяцца да кампетэнцыі Фонду.

Для ажыццяўлення кантролю за дзейнасцю Фонду і яго органаў на месцах Праўленнем Фонду ўтвараецца Рэвізійная камісія. Палажэнне аб Рэвізійнай камісіі зацвярджаецца Праўленнем Фонду.

Старшыня Рэвізійнай камісіі Фонду назначаецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Рэвізійная камісія Фонду:

кантралюе фінансавую і гаспадарчую дзейнасць Праўлення і яго абласных і Мінскага гарадскога ўпраўленняў;

праводзіць рэвізіі стану і ўліку матэрыяльных каштоўнасцей;

правярае тэрміны і правільнасць праходжання спраў у апараце органаў Фонду, стан работы з пісьмамі і заявамі грамадзян;

прадстаўляе вынікі праведзеных праверак у Праўленне Фонду і пры неабходнасці — у Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь;

ажыццяўляе кантроль за правільным расходаваннем сродкаў на выплату пенсій і дапамог.

Наймальнікі і іншыя плацельшчыкі страхавых узносаў, органы сацыяльнага забеспячэння абавязаны бесперашкодна прадстаўляць Рэвізійнай камісіі Фонду неабходныя дакументы і звесткі, якія адносяцца да сферы яго дзейнасці.

Колькасць і фонд аплаты працы работнікаў рэспубліканскага і мясцовых органаў, Рэвізійнай камісіі Фонду зацвярджаюцца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Структура і каштарыс расходаў гэтых органаў зацвярджаюцца Праўленнем Фонду.

Забеспячэнне органаў Фонду праводзіцца за кошт сродкаў бюджэту Фонду.

Расходы, звязаныя з дзейнасцю Рэвізійнай камісіі Фонду, ажыццяўляюцца за кошт сродкаў Фонду і ўключаюцца ў каштарыс расходаў на ўтрыманне яго апарату.

## 6. Прававое становішча Фонду

Палажэнне аб Фондзе зацвярджаецца Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь.

Палажэнні аб абласных і Мінскім гарадскім упраўленнях Фонду распрацоўваюцца з улікам прапаноў гэтых упраўленняў і зацвярджаюцца Праўленнем Фонду.

Фонд з'яўляецца юрыдычнай асобай, мае пячатку з выявай Дзяржаўнага герба Рэспублікі Беларусь і са сваёй назвай.

* У далейшым — Фонд.

*Дадатак 2*

# Парадак выплаты страхавых узносаў наймальнікамі, асобамі, якія займаюцца прадпрымальніцкай дзейнасцю, і грамадзянамі ў Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва Рэспублікі Беларусь

1. Усе прадпрыемствы, установы і арганізацыі незалежна ад форм уласнасці і гаспадарання, асобы, якія наймаюць на работу грамадзян па дагавору або займаюцца прадпрымальніцкай дзейнасцю, а таксама працуючыя грамадзяне абавязаны ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь выплачваць страхавыя ўзносы ў Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва Рэспублікі Беларусь*.

2. Наймальнікі і асобы, якія займаюцца прадпрымальніцкай дзейнасцю, рэгіструюцца ў якасці плацельшчыка страхавых узносаў у органах Фонду па месцы знаходжання або жыхарства.

3. Страхавыя ўзносы налічваюцца на ўсе віды аплаты працы, з якіх у адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь "Аб пенсіённым забеспячэнні" вылічваецца пенсія, а таксама на сумы аўтарскага ганарару і ўзнагароджання за выкананне работы па дагаворах падраду і даручэння.

4. Наймальнікі выплачваюць страхавыя ўзносы адзін раз у месяц у тэрмін, устаноўлены для атрымання заработнай платы за мінулы месяц. У такім жа парадку наймальнікі ўтрымліваюць абавязковыя страхавыя ўзносы з работнікаў, у тым ліку і з працуючых пенсіянераў.

Асобы, якія займаюцца прадпрымальніцкай дзейнасцю, у тым ліку члены сялянскіх (фермерскіх) гаспадарак, выплачваюць страхавыя ўзносы з даходаў па ўстаноўленых тарыфах у тэрміны, вызначаныя для гэтай катэгорыі работнікаў заканадаўствам Рэспублікі Беларусь аб падатках.

5. Наймальнікі прадстаўляюць у банк плацежнае даручэнне на пералічэнне страхавых узносаў у Фонд адначасова з выпатрабаваннем сродкаў на аплату працы работнікаў. Без прад'яўлення ўказаных плацежных даручэнняў сродкі на аплату працы не выдаюцца.

6. Не ўнесеная ў тэрмін сума страхавых узносаў лічыцца нядоімкай і спаганяецца разам з налічанай пеняй у бясспрэчным парадку, устаноўленым для спагнання не ўнесеных у тэрмін падаткаў. Да нядоімкі адносіцца і сума запазычанасці, выяўленая пры праверцы плацельшчыка страхавых узносаў.

Пеня налічваецца на суму нядоімкі за кожны дзень пратэрміноўкі ў размеры 0,2 працэнта.

За несвоечасовае залічэнне або пералічэнне страхавых узносаў па віне крэдытных устаноў у даход Фонду крэдытная ўстанова выплачвае пеню за кожны дзень пратэрміноўкі ў размеры 0,2 працэнта. З плацельшчыкаў узносаў за гэтыя дні пеня не бярэцца.

Нядоімка па ўзносах, не пагашаная ва ўстаноўлены тэрмін асобамі, якія нанялі на работу грамадзян па дагавору, спаганяецца па рашэнню суда.

Фонд і яго мясцовыя органы пры спагнанні нядоімкі па страхавых узносах карыстаюцца ўсімі правамі, прадастаўленымі падатковым органам па спагнанню не ўнесеных у тэрмін падаткаў.

Да наймальнікаў і іншых плацельшчыкаў страхавых узносаў прымяняюцца фінансавыя санкцыі ў выглядзе спагнання:

усёй утоенай або заніжанай пры налічэнні страхавых узносаў у Фонд сумы аплаты працы і штрафу ў размеры той жа сумы, а пры паўторным парушэнні — штрафу ў двайным размеры;

10 працэнтаў належных да выплаты сум страхавых узносаў у Фонд за іх адмову ад рэгістрацыі ў якасці плацельшчыка страхавых узносаў.

За непрадстаўленне ва ўстаноўленыя тэрміны справаздач і іншых матэрыялаў, звязаных з выплатай страхавых узносаў, органы Фонду пры прымяненні адміністрацыйных штрафаў да вінаватых асоб карыстаюцца правамі, прадугледжанымі для падатковых органаў.

7. Усе спрэчкі паміж плацельшчыкам страхавых узносаў і органамі Фонду па пытаннях налічэння ўзносаў і пені, спагнання нядоімкі, штрафаў і іншых фінансавых санкцый вырашаюцца гэтым Фондам або ў судовым парадку ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

8. Інструкцыя аб парадку збірання і ўліку страхавых узносаў у Фонд зацвярджаецца Праўленнем Фонду па ўзгадненню з зацікаўленымі міністэрствамі і ведамствамі Рэспублікі Беларусь.

* У далейшым — Фонд.

*Закон Рэспублікі Беларусь*

# Аб унясенні дапаўненняў і змяненняў у дзеючыя заканадаўчыя акты аб грамадзянстве

У мэтах удасканалення заканадаўства аб грамадзянстве Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Унесці дапаўненні і змяненні ў наступныя заканадаўчыя акты:

I. У Закон Рэспублікі Беларусь ад 18 кастрычніка 1991 года "Аб грамадзянстве Рэспублікі Беларусь" (Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1991 г., №32, арт. 581):

1) дапоўніць артыкул 8 пасля пункта 1 новым пунктам наступнага зместу:

"2) у парадку рэгістрацыі";

пункты 2 і 3 лічыць адпаведна пунктамі 3 і 4;

2) частку трэцюю артыкула 17 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

"Грамадзянства такім асобам прадастаўляецца пры наяўнасці іх жадання і ўмоў, прадугледжаных пунктамі 1 і 2 артыкула 13 гэтага Закона";

3) дапоўніць Закон артыкулам $17^1$ наступнага зместу:

"Артыкул $17^1$. Права на набыццё грамадзянства Рэспублікі Беларусь у парадку рэгістрацыі

Права на набыццё грамадзянства Рэспублікі Беларусь у парадку рэгістрацыі маюць асобы, якія пастаянна пражывалі на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, але выехалі за яе межы да ўвядзення ў дзеянне гэтага Закона, маюць доказы сваёй прыналежнасці да грамадзянства былога СССР, не мелі і не маюць грамадзянства іншай дзяржавы";

4) артыкул 31 дапоўніць пасля часткі трэцяй новай часткай наступнага зместу:

"вырашаюць пытанні набыцця грамадзянства Рэспублікі Беларусь у парадку рэгістрацыі";

частку чацвёртую лічыць часткай пятай;

5) артыкул 32 дапоўніць пасля часткі трэцяй новай часткай наступнага зместу:

"вырашаюць пытанні набыцця грамадзянства Рэспублікі Беларусь у парадку рэгістрацыі";

часткі чацвёртую і пятую лічыць адпаведна часткамі пятай і шостай;

6) артыкул 37 дапоўніць другой часткай наступнага зместу:

"Тэрмін разгляду заяў па пытаннях набыцця грамадзянства ў парадку рэгістрацыі не павінен быць болей двух месяцаў".

II. У пастанову Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 18 кастрычніка 1991 года "Аб увядзенні ў дзеянне Закона Рэспублікі Беларусь "Аб грамадзянстве Рэспублікі Беларусь" (Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1991 г., №32, арт. 582):

1) дапоўніць пункт 1 новай часткай наступнага зместу:

"Замежныя грамадзяне і асобы без грамадзянства, якія на дзень уступлення ў сілу Закона Рэспублікі Беларусь "Аб грамадзянстве Рэспублікі Беларусь" пастаянна пражывалі ў Беларусі па адпаведных відах на жыхарства, не падпадаюць пад дзеянне пункта 1 артыкула 2 гэтага Закона";

2) пункт 2 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

"Права на набыццё грамадзянства Рэспублікі Беларусь у парадку рэгістрацыі, якое адзначана ў артыкуле $17^1$ гэтага Закона, можа быць рэалізавана да 1 студзеня 1996 года".

III. Другую частку артыкула 17 Палажэння аб парадку разгляду пытанняў, звязаных з грамадзянствам Рэспублікі Беларусь, зацверджанага Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 19 чэрвеня 1992 года (Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1992 г., №21, арт. 377), выключыць.

IV. Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь да 1 жніўня 1993 года прывесці нарматыўныя акты Рэспублікі Беларусь у адпаведнасць з Законам Рэспублікі Беларусь "Аб унясенні дапаўненняў і змяненняў у дзеючыя заканадаўчыя акты аб грамадзянстве".

V. Гэты Закон увесці ў дзеянне з моманту прыняцця.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШУШКЕВІЧ.**

15 чэрвеня 1993 г.
г.Мінск.
№ 2410-XII

